ТЫДНЁВІК ПАЎНОЧНА-ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ
# ВОЛЬНАЕ + TV ГЛЫБОКАЕ
Wolne Glebokie
Free Hlybokaye
Жыве Беларусь!
Выдаецца са снежня 1994 г. №23(83), 29.10 – 4.11 2001 г. Кошт па дамове

**Цытата першай паласы:**

Люблю за честность нашу власть,
нигде столь честной не найду,
Опасно только душу класть
У этой власти на виду.

*И. Губерман*

## За кватэру будзем плаціць даражэй

Згодна з праектам бюджэту на 2002 год, насельніцтва будзе аплочваць не менш 40% сабекошту жыллёва-камунальных паслуг. Пры такім раскладзе, плата за пражыванне 4 чалавек у 3-пакаёўцы ў ацяпляльны перыяд будзе складаць 47 тысяч рублёў; 3 чалавек у 2-пакаёвай – 34 тысячы; 2 чалавек у аднапакаёвай – 23 тысячы рублёў. Паводле інфармацыі міністра жыллёва-камунальнай гаспадаркі Беларусі А. Мількоты, да канца 2003 года доля насельніцтва ў аплаце сабекошту жыллёва-камунальных паслуг павялічыцца да 80%. У пачатку сёлетняга года беларусы аплачвалі толькі 14% паслуг, зараз – 29,3%.

*М. Ясюкевіч*

## Трагедыя ў Докшыцкім раёне

**Трагедыя ў стылі Дастаеўскага разгулялася ў вёсцы Забор'е. Раніцой у хаце 74-га-довай пенсіянеркі суседзі ўбачылі пажар.**

Агонь патушыць не ўдалося – хата згарэла. На пажарышчы быў знойдзены труп гаспадыні з сечанай ранай на галаве. Па гарачых слядах супрацоўнікі Докшыцкага РАУС устанавілі, што напярэдадні вечарам злачынства здзейсніў 22-гадовы, раней судзімы за крадзеж рабочы саўгаса "Вітунічы". Высветлілася, што п'яны "раскольнікаў" зайшоў у незамкнёную хату, металічным вугалком забіў гаспадыню, украў 60 тысяч беларускіх рублёў і 100 долараў. Каб схаваць сляды злачынства, хату падпаліў.

*Л.Шпак*

## Настаўніца-«тэрарыстка»

**Настаўніца Кузькавіцкай СШ (Быхаўскі раён) даслала іншай настаўніцы канверт з "белым парашком" – содай.**

Спалоханая атрымальніца пабегла памылася ў лазні, а потым узняла вэрхал. Супраць "тэрарысткі" ўзбудзілі крымінальную справу: ёй пагражае штраф альбо 6 месяцаў арышту.

Аналагічны жарт зафіксаваны ў г. Камянцы на Брэстчыне.

Між тым, паштовая служба Беларусі запэўнівае, што ўся замежная карэспандэнцыя правяраецца эпідэміёлагамі, а паштавікі разбіраюць пасылкі і допісы з-за мяжы ў спецадзенні – гумовых пальчатках і распіратарах.

*"НН"*



Фота В.Сапгінкі

Надзея Бабіч, студэнтка 4 курса гісторыка-філалагічнага факультэта Полацкага дзяржаўнага універсітэта, з задавальненнем чытае «Вольнае Глыбокае».

## Куды знік журналіст?

**26 кастрычніка ў Мінску распачаўся судовы працэс па справе зніклага год назад тэлеаператара ГРТ Дзмітрыя Завадскага.**

У зале суда присутнічалі пацярпелыя маці і жонка Дзмітрыя. На пасяджэнне не дапусцілі прадстаўніка місіі КНГ АБСЕ ў Беларусі Б. Разуміловіч, ніводнага журналіста. Валерый Ігнатовіч, якога падазраюць у забойстве некалькіх чалавек і выкраданні Дзмітрыя, у зале суда ляжыць у клетцы на насілках, накрыты коўдрай, на пытанні суда не адказвае.

*В. Шчукін*

## Ліса-забойца

Ледзь не плакаў жыхар вёскі Навасёлкі-І, што ў Пастаўскім раёне, калі раптоўна захварэў, а затым на вачах здох яго прыгажун-конь. Як высветлілася пасля, загінуў той у выніку захворвання на шаленства. Яго хутчэй за ўсё укусіла хворая ліса, якая круцілася непадалёк. І калі ўвесь свет хвалюе сібірская язва, то Пастаўшчына ўсур'ёз заклапочана праблемай шаленства дамашніх жывёл, у тым ліку кошак і сабак. За апошнія тыдні выяўлена 5 хворых братоў нашых меншых: тры лісы, янот і конь. Ад кантактаў з імі пацярпелі 10 чалавек. Поўны курс лячэння ад шаленства назначаны асобным жыхарам вёсак Андроны, Грыдэк, а тэрыторыя ля вёскі Навінкі аб'яўлена недобранадзейнай у плане шаленства. Да канца года тут адловяць і знішчаць усіх бяздомных, бадзяжных жывёл і звяркоў, правядуць іншыя неабходныя мерапрыемствы.

*У.Шык*

## У дбайнага гаспадара ўсё ў парадку

Ужо колькі дзесяцігоддзяў цэнтральная сядзіба саўгаса імя Ціміразева Глыбоцкага раёна вёска Ломашы ўяўляе сабой дагледжаны пасёлак гарадскога тыпу. Як і раней, тут працуе дзіцячы садок, музычная школа, лазня, урачэбная амбулаторыя, кацельня. Нялёгка ўсё гэта ўтрымліваць. Не лягчэй было будаваць чатыры сотні прыстойных асабнякоў на цэлыя дзве вуліцы. Не сакрэт, што за кожнай справай у саўгасе праглядаецца тытанічная праца дырэктара, кандыдата эканамічных навук Аляксандра Сясіцкага, які нязменна кіруе гаспадаркай з дня яе стварэння ў 1963 годзе. Яшчэ ў сярэдзіне жніўня тут выканалі дзяржзаказ па пастаўках пшаніцы. Набылі пяць адзінак тэхнікі. Распачата будаўніцтва яшчэ пяці жылых дамоў. У дбайнага гаспадара, якім з'яўляецца А. Сясіцкі, і людзі задаволены і ўсюды парадак.

*У. Шык*

## Двое сутакляснога палону

Да канца сваіх дзён не забудзе жыхарка вёскі Порплішча, што ў Докшыцкім раёне, дзве халодныя восеньскія ночы, што правяла адна на лясным балоце. Мясціны гэтыя даўно вядомы, як грыбныя, таму, як звычайна, муж і жонка пайшлі ў лес, каб зрабіць нарыхтоўкі на зіму. Хутка разышліся ў розныя бакі. Спачатку перакрыкваліся, затым галасы адзін другога чуць перасталі. Устрывожаны гаспадар адзін вярнуўся дадому, арганізаваў пошук. Цэлай вёскай усю ноч шукалі прапаўшую жанчыну, але не знайшлі. На другія суткі пошукаў сляды жанчыны, якія ўзяў на нюх спецыяльна абучаны сабака з Глыбокага, згубіліся ў балоце. Ужо той-сёй думаў пра дрэнное. На шчасце, жанчыну знайшлі на трэці дзень у канаве, дзе яна сядзела, страціўшы і сілы, і надзею вярнуцца дадому.

*У.Шык*

## Жыві і бойся

Спачатку года ў Глыбоцкім раёне зафіксавана 100 крадзяжоў. У 80-ці выпадках пацярпела насельніцтва. У шоку знаходзяцца ўладальнікі асабістых аўтамабіляў, бо на горад, відаць, "паклала вока" добраарганізаваная злачынная групоўка.

Кастрычніцкім днём у 9 гадзін раніцы з аўтастаянкі на Цэнтральнай плошчы Глыбокага быў угнаны "Фольксваген-пасат". Яго гаспадар ненадоўга адлучыўся. Калі ж вярнуўся, замест аўтамабіля ўбачыў пустое месца. За некалькі гадзін да гэтага злодзеі спрабавалі ўкрасці "Жыгулі". Хутчэй за ўсё аўтамабілі бясследна знікаюць на неабсяжных прасторах "старэйшай сястры" Расіі, а нехта такім шляхам зарабляе сабе на жыццё.

*У.Шык*

## Шлях да святыні

Гэтага дня вельмі чакалі вернікі з вёскі Карабы. У нядзелю 21 кастрычніка, калі ў паветры адчуваўся першы зімовы подых і з дрэў ападала апошняе лісце, жыхары сабраліся на ўскрайку вёскі, дзе высока ўгору ўзнёсся крыж. Быў ён усталяваны ў гэтым месцы 2 гады таму назад па Боскай волі і блаславенню біскупа Полацкага і Глыбоцкага Феадосія. Дзякуючы намаганням Пракапёнак Яўгеніі Іванаўны і Міхалевіча Фёдара Мартынавіча, на нашай беларускай зямлі з'явілася яшчэ адно месца, дзе кожны чалавек, незалежна ад таго хто ён, можа прыпыніцца тут, памаліцца і падумаць. Калі ён чалавек веруючы, то здыме шапку і перахрысціцца, узнося хвалу Пану Богу. А калі ж у яго светапогляд іншы, то ўсё роўна штосьці варухнецца ў сэрцы і супакой, і палёгку адчуе яно. На месцы ўсталявання крыжа адбыўся малебен з удзелам святароў праваслаўнай царквы Глыбокага. З дзіцячых вуснаў шчыра гучалі словы малітвы і ўдзячнасці. Пранікнёна маліліся дарослыя. Усцешна, што людзі знайшлі свой шлях да Бога.

***Ад рэдакцыі:*** *Гэты артыкул разам з пісьмом даслаў нам дзевяцікласнік Карабоўскай СШ Аляксей Асон, які жыве ў вёсцы Карабы-ІІ. Мы дзякуем яму за допіс і чакаем новых цікавых навін пра жыццё ў Карабах і навакольных вёсках. А яшчэ мы прапануем Аляксею прыняць удзел у конкурсе "Я ў XXI-ым стагоддзі".*

## На БТ новы кіраўнік

22 кастрычніка прэм'ер-міністр Беларусі Генадзь Навіцкі прадставіў калектыву Нацыянальнай дзяржтэлерадыёкампаніі яе новага старшыню Ягора Рыбакова. Я. Рыбакову 30 год. Новы старшыня мае педагагічную адукацыю і ганарыцца тым, што ўпершыню яго заўважыў цяперашні кіраўнік краіны.

*П.Цярэнцьеў*

## Шок – гэта па-нашаму

Сапраўдны шок адчулі супрацоўнікі Пастаўскага раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, калі на днях наведаліся ў гарпасёлак Лынтупы. Рэальнасць уяўляла больш малюнкі са школьнага падручніка гісторыі Старажытнага свету, чым сучаснае жыццё. У частцы памяшканняў былога дзіцячага садка жыве шматдзетная сям'я рускіх перасяленцаў з Казахстана. Разам з людзьмі, праўда ў розных памяшканнях, жыве дамашняя жывёла. Пасля візіту службовых асоб, спешна пачата будаўніцтва хлява для жывёлы. Цікава, няўжо раней не ведалі ў гаспадарцы, што каменны век ў гісторыі чалавецтва скончыўся яшчэ ў 3-цім тысячагоддзі да нашай эры, а не ўчора?

## Пакаталіся з ветрыкам

**Падвыпіўшы жыхар Глыбогага Н. вырашыў пакатацца на ўкрадзеным у райсельгасхіміі УАЗе, аднак на тэрыторыі Докшыцкага раёна, ля вёскі Казлы, з'ехаў у кювет і атрымаў траўмы.**

Падобны сцэнарый разыгралі і іншыя ўгоншчыкі. У трох выпадках у райцэнтры і ваколіцах былі ўкрадзены некалькі іншамарак. Пашчасціла уладальніку "Фольксвагена" – яго аўтамабіль хутка знайшлі, а гаспадары "Форда" і "Аўдзі" атрымалі свае машыны надта пашкоджанымі. Залячыўшы траўмы, угоншчыкі паўстануць перад судом. Згодна новага крымінальна-працэсуальнага кодэксу, мінімальнае пакаранне за ўгон аўтатранспартных сродкаў прадугледжвае пазбаўленне волі тэрмінам да 5 год.

## «Кіна не будзе – электрычнасць скончылася»

Памятаеце гэтыя словы, сказаныя Крамаравым у адной з кінакамедый? Гэтыя словы сёння гавораць энергетыкі Докшыц. Нядаўна спецбрыгады Докшыцкага ўчастка энергагляду правялі рэйд і выявілі злосных неплацельшчыкаў. Жыхар вёскі Юхноўка Уладзімір Б. спажываў электрычнасць дарма два гады і напаліў 1250 кілават. Па году і больш не разлічваліся за святло жыхары вёсак Слабада, Бярэзіна, Заборцы. На восем абанентаў энергетыкі склалі акты. За няўплату ўсе зламыснікі адключаны ад электралініі і вымушаны жыць пры лямпе ці лучыне.

## Старасць – не радасць, але жыць трэба

Пячнік бясплатна адрамантаваў печ адзінокай бабульцы, якая ўжо 20 год не пакідае сваёй хаты, бо баляць ногі. А нядаўна бабулю, якая жыве на тэрыторыі Бярозаўскага сельсавета, што ў Докшыцкім раёне, на руках даставілі ў машыну. Яна адвезла састарэлую жыхарку на вечар, арганізаваны для паджылых людзей. Такіх людзей у Бярэзінскім краі 11 тысяч 300 чалавек, трэць усяго насельніцтва. Большасць адзінокіх удоў не можа справіцца па гаспадарцы без мужчынскіх рук. Раённая служба сацдапамогі апякуе 245 адзінокіх. 26 чалавек накіраваны ў дамы-інтэрнаты. Яшчэ 97 старых прыстроілі ў спецпалаты, якія ёсць зараз пры ўчастковых бальніцах. Па магчымасці дапамагаюць сваім пенсіянерам калгасы-саўгасы: то дровы папілуюць, то жыллё адрамантуюць. На жаль, аплаціць такія паслугі са сваіх пенсій людзі не здольны.

## Адным – падарункі, другім – непрыемнасці

Сярод лепшых камбайнёраў, вадзіцеляў Віцебшчыны на "Дажынках 2001" 9 прадстаўнікоў Пастаўскага раёна. І хоць легкавых аўтамабіляў працоўныя калгаса "Дружба" і імя Калініна не атрымалі, акрамя грашовых прэміяў яны прывезлі дамоў халадзільнікі і каляровыя тэлевізары. Нягледзячы на гэтую прыемную навіну, кіраўнік Пастаўшчыны Ванда Януковіч 26 верасня трымала справаздачу перад удзель-нікамі выязнога рэспубліканскага штаба, пасяджэнне якога правёў у Віцебску віцэ-прэм'ер А. Папкоў. Ёй прыйшлося называць канкрэтныя тэрміны, у якіх будзе скончана жніво. На пасяджэнні ў Віцебску з непрыемнасцю было адзначана, што крызіс у аграпрамысловы комплексе так і не пераадолены. Толькі на Пастаўшчыне прапушчаны тэрміны восеньскага севу, зацягнулася праца на бульбяных і льняных палетках. І хоць надвор'е сёлета н перашкаджае рупіцца, справы нядрэнна ідуць толькі ў 5 –6 гаспадарках раёна.

## Сам сябе пакараў

Нядаўна непадалёк ад Докшыц сутыкнуліся два аўтамабілі ВАЗ 2101. Абодва вадзіцелі, на шчасце, не пацярпелі, а вось аўтамашыны былі пашкоджаныя. У абодвух вадзіцеляў – жыхара райцэнтра і мінчаніна – меліся страхавыя полісы абавязковай грамадзянскай адказнасці. Па існуючых правілах затраты на рамонт сталічнаму жыхару ў суме 2 мільёны 884 тысячы рублёў кампенсаваў Дзяржстрах. Вінаваты ў аварыі вадзіцель з Докшыц, які пры абгоне выехаў на паласу сустрэчнага руху, свой "Жыгулёнак" павінен рамантаваць сам. Акрамя таго, праз суд у прымусовым парадку на карысць дзяржавы ён павінен вярнуць суму страхоўкі, выплачаную Дзяржстрахам, і адказаць за аварыю ДАІ. Ці не занадта шмат слоў "павінен" для аднаго чалавека? Каб падобнае не здаралася, будзьце ўважлівымі на дарозе.

*У. Шык*




## З музыкай па жыцці

У Бягомльскай СШ Докшыцкага раёна ўжо не здзіўляюцца, што іх настаўніка музыкі Васіля Глазко запрашаюць выступаць у Германію. Упершыню выкладчык пабываў там пяць год назад і пакарыў сваім талентам гаспадара аднаго рэстарана, калі выканаў некалькі мелодый на акардэоне. Немец адразу прапанаваў В. Глазко пастаянны кантракт з добрым заробкам і вельмі шкадаваў, што маэстра з Віцебшчыны згадзіўся выступаць у яго час ад часу. Вельмі ўжо прыкіпеў душой Васіль Глазко да родных мясцін, таму і адмовіў немцу. Менавіта тут, на радзіме, ужо ў 4 гады яго ведалі як добрага музыканта. Педагогі сталічнай кансерваторыі шкадавалі, што хлопчык не паехаў вучыцца ў Мінск. Пасля заканчэння музычнага вулішча ў Маладзечна і службы ў арміі Васіль мог з музычнага ўзвода трапіць у ваенныя дырыжоры альбо працаваць у паўночным рускім народным хоры. Але ён вярнуўся на радзіму. Скончылі ВУЗы два яго сыны. Разляцеліся па свету вучні. А ён усё іграе на акардэоне. З песняй яго душу напаўняе неабʼемная любоў да радзімы.

*У. Шык*

## Грыбы-падарожнікі

Жыхарка вёскі Дунілавічы, што ў Пастаўскім раёне, 7 кастрычніка набрала за агародам у траве поўны кошык маладых апенькаў. Раней пенсіянер-настаўнік знайшоў такія ж грыбы на дрэве, што расло за лазняй ля возера. На падвор'і былога франтавіка І. Субача апенькі з'яўляюцца ў кастрычніку трэці год запар. Цікава, што ад вёскі да бліжэйшага лесу не менш трох кіламетраў напрасткі. А самы ўнікальны грыбны рэкорд зафіксаваны сёлета ў Докшыцкім раёне. Дзяжурны на выбарчым участку ў вёсцы Бярозкі міліцынер раніцай, у дзень выбараў, побач з будынкам сельсавета ўбачыў 9 прыгажуноў-баравікоў і 11 здаровых падасінавікаў. І пазней супрацоўнікі сельсавета знаходзілі ў сябе пад вокнамі грыбы. Відаць, у родным лесе ў гэты ўраджайны год грыбам цеснавата.

## Ідэя адрадзіць засценак Язэпа Драздовіча

Творы ўдзельнікаў VI Нацыянальнага пленэра імя Язэпа Драздовіча экспанаваліся з 18 па 31 кастрычніка ў мастацкай галерэі ў Мінску. З 3 па 13 кастрычніка пленэр праводзіўся на радзіме вядомага беларускага мастака – у вёсцы Пунькі Глыбоцкага раёна. Мастакі з Верхнядзвінска, Мінска, Маладзечна, Пінска ў сваіх творах імкнуліся перадаць дух малой радзімы Драздовіча – маляўнічых пейзажаў Глыбоцкага і Шаркоўшчынскага раёнаў. Ва ўдзельнікаў пленэра ўзнікла ідэя адрадзіць засценак у Пуньках.

*М. Гаравы, БелаПАН*

Зберажом памяць

# Курапаты – беларускі Востраў Слёз!

Курапаты... З трывогай сачу за падзеямі, якія разгарнуліся вакол гэтага месца, дзе ў агульных магілах пахаваныя пакутнікі-беларусы. Нельга дапусціць, каб па чалавечых касцях раз'язджалі бульдозеры і асфальтаўкладчыкі, каб трушчылі чалавечыя астанкі гусеніцы трактараў. Усё ў гэтым сусвеце варочаецца бумерангам. За нашы грахі заплоцяць нашчадкі. Няўжо так цяжка зразумець, што калі мы дапусцім знішчэнне Курапат, у будучым па нашых магілах праедуцца бульдозерамі нашы дзеці і ўнукі. Тады не здзіўляйцеся, калі пачуеце пра чарговае варварства, вандалізм на могілках. У такім выпадку не трэба абурацца, што дзесьці разбурылі помнік або апаганілі захаванне. Аддаючы на згубу Курапаты, мы самі даём прыклад цынічнасці, непавагі да магіл продкаў.

Я прашу адазваца ўсіх, хто носіць у сваіх сэрцах памяць аб пакутніках тых гадоў, бо загінулі сотні тысяч. Лічы, з кожнай вёскі, хутара, пасёлка, горада забіралі "чорныя крумкачы" свае ахвяры – "ворагаў" народа, "кулакоў". Магілы большасці з іх невядомыя. Але жывыя яшчэ сведкі тых часоў, у сем'ях зберагаюцца імёны закатаваных родзічаў. Назавіце іх услых. Спіс атрымаецца вельмі вялікі.

Мой малодшы стрыечны брат Грыгор'еў Мікалай Кірылавіч, мой Коленька, з якім мы некалькі гадоў гадаваліся ў бабулі, загінуў у Афганістане ў няпоўныя 20 год. Ён пахаваны далёка на Урале, на радзіме сваёй маці. Але дзе Востраў Слёз, куды я магу прыехаць, пакласці кветкі, у думках пагаварыць з ім.

У 1939 годзе ў вёску Новыя Чамаданы Шклоўскага раёна Магілёўскай вобласці прыехаў "чорны крумкач". Па сведчанні майго таты Сякацкага Міхаіла Венідзіктавіча, схапілі тады з вёскі 17 чалавек, у тым ліку майго дзядулю Сякацкага Венідзікта Амброзевіча і яго сыноў Антона і Івана. Ніхто з іх не вярнуўся. Дзядуля загінуў у лагеры пад Уфой. Дзядзя Іван у штрафным батальёне пад Масквой у 1941 годзе крывёй заплаціў за сваю "віну" перад народам, а дзе загінуў дзядзя Антон, я не ведаю. Ведаю толькі, што па прысуду атрымаў ён 10 год "без права допісу". Магчыма, і яго завезлі на допыты ў Мінск, як шпіёна невядома якой разведкі (дзядуля быў афіцэрам і праходзіў па справе Тухачэўскага). Ён адмовіўся падпісваць паклёп на сайго камандзіра. Магчыма, апошнім яго прытулкам сталі Курапаты. Адразу пасля вайны арыштавалі і тытаву сястру Сякацкую Браніславу, медыка, якая ўсю вайну прайшла з медсанбатам і згінула без вестак у засценках НКВД.



Таму і павінны стаць Курапаты яшчэ адным Востравам Слёз для тых, хто ніколі не даведаецца, дзе магілы родных, якіх загубіў сталінска-бальшавіцкі рэжым. Адгукніцеся, людзі! Прыйдзем разам у Курапаты на Дзяды, абаронім гэта святое пакутніцкае месца, прымусім улады спыніць будоўлю дарогі. Не будзем губіць свае душы, не будзем беспамятоўнымі. Мы і так ужо на многае забыліся, мо таму і жывём зараз так?

Я хачу звярнуцца і да святароў усіх канфесій: праваслаўнай, каталіцкай, мусульманскай, іўдзейскай. Ні адна рэлігія не дазваляе руйнаваць магілы. Я пераканана, што ў Курапатах пакутнікі ўсіх канфесій. Чаму ж не чуваць Вашых галасоў, чаму не настаўляеце сваю паству на богапатрэбную справу, не благаслаўляеце.

А рабочыя, што працуюць на будоўлі дарогі? І усе, хто мае дачыненне да гэтай будоўлі? Не кашчунствуйце, пабойцеся Бога! Успомніце, нарэшце, пра сумленне, калі Вы атэісты. Адмоўцеся працаваць па варварскаму праекту. Як жа Вы будзеце жыць потым? Я вельмі спадзяюся, што Вы пачуеце мяне, людзі! Не разбурайце магілы маіх, Вашых і нашых родных. Курапаты – наш агульны Востраў Слёз. Д асустрэчы на Дзяды ў Курапатах.

Пры нагодзе пачытайце геніяльнае апавяданне В.Быкава за 5.07.01 у «Народнай волі»

*С.Табола, в Заазерцы, а/с Шкунцікі 211923, Шаркоўшчынскі раён. Тэл. 23111*

*Журналісцкія маналогі*

# Нацыя без нацыянальнай свядомасці?

Галіна Сутула



Добра памятаю савецкія часы, калі мы ўсе, дружна, сэсэсэраўскім натоўпам, як адзін, крочылі ў шчаслівую будучыню. Не разумелі мы, што ў той будучыні шчасця на ўсіх можа не хапіць, як не хапала яго ўжо тады простым смяротным, людзям без сувязяў, блатаў і «бабак». Я добра памятаю чэргі ў крамах за танным, па рубель семнаццаць, «чарнілам». Яго тады мужчыны куплялі «абоймамі», па тры-пяць бутэлек зараз. Разумная ў той час была палітыка: многіх рабіла «шчаслівымі' яшчэ не даходзячы да будучыні. Тыя «шчаслівыя» співаліся, паміралі раней тэрміну. А што за бяда ад гэтага вялікай дзяржаве? Святлей будзе ў будучыні астатнім. Больш шчасця на душу насельніцтва прыйдзецца. А што многія душы ледзь трымаліся ў целах, нікому справы не было.

Гады адышлі за гарызонт. І шчаслівая будучыня, як тая лінія гарызонту, зноў аддалілася. І зноў пасыпаліся абяцанкі яе наблізіць і пасвятліць. А што маем на самой справе?

Чэргі з магазінаў перамясціліся ў аптэкі. Людзі бяруць у аптэках бутэлечкі лекаў «абоймамі», як некалі бралі таннае «чарніла» ў крамах. Хварэюць маладыя і малыя — тая будучыня, дзеля якой было раздадзена столькі абяцанак. Фізічна чарвівае пакаленне ўжо не верыць, што ў нас нешта зменіцца. Сёння не кожны працуючы можа дазволіць сабе аддаць у краме на ежу 6 тысяч рублёў /4$/. У выніку ён вымушаны аддаць іх у аптэцы, бо хвароб у кожнага не адна-дзве, а цэлы ахапак. А нас па-ранейшаму пераконваюць у тым, што беларусы жывуць шчасліва. І сапраўды.

Якое шчасце, што аўтобусы ў вёскі ходзяць праз дзень!

Якое шчасце, што летам неяк за грошы ўзяць сідзячы білет з Мінска, Віцебска ў Глыбокае, а восенню неяк убіцца ў мінскі і віцебскі аўтобусы з Глыбокага!

Якое шчасце, што ў нас вочы лезуць ад цэн, якія растуць, як грыбы пасля дажджу!

Якое шчасце, што заробкі людзей з вышэйшай адукацыяй у Беларусі ў 10 разоў меншыя, чым у прыбіральшчыцы без адукацыі на Захадзе!

Якое шчасце, што нават маючы грошы, без нерваў нідзе нічога не даб'ешся!

Якое шчасце адчуваць сябе нікчэмнасцю побач з такімі «таленавітымі» вертыкальшчыкамі- ўпраўленцамі!

Якое шчасце жыць і ведаць, што на кожным кроку нас падманвае дзяржава!



Якое шчасце, што за ўсё жыццё мы не пабудзем самі сабой, таму што, каб жыць, павінны выконваць адведзеную нам уладамі ролю паўдурняў у беларускай масоўцы!

Якое шчасце, што Беларусь ідзе асаблівым эканамічным шляхам, які нішчыць сваіх грамадзян без вайны!

Якое шчасце, што ў Беларусі памірае больш, чым нарадажаецца!

Якое шчасце пры жыцці адчуваць сябе нябожчыкам, на якога ніхто не зважае, і з халодным спакоем назіраць за тым, што адбываецца! -

Чытач, прачытаўшы гэтыя радкі, можа паціснуць плячыма ад здзіўлення: «Няўжо ўсё гэта, вышэй пералічанае, можна лічыць шчасцем?»

Нельга, але большасць беларусаў менавіта за такое шчасце нізка кланяецца «правадырам» і дзякуе, што няма вайны. Нам вайна не патрэбна. Нацыя беларусаў вымірае і без яе.

Сумна, але факт: большасць беларусаў задавальняецца малым — каб жывот ежай набіць, каб паспаць больш, каб вольны час правесці ў «кампаніі» з бутэлькай. І навошта думаць пра нейкую там нацыю, пра перспектыву. Пражыў дзень да вечара ў клопатах, хваробах, у поце, бегатні, паеў, пераспаў і досыць добрага... Замест таго, каб чытаць, аналізаваць, думаць, развіваць свае здольнасці, беларусы зарабляюць на кавалак хлеба з каўбасой і на бутэльку. А пасля чаркі, як вядома, філасофія жыцця значна спрашчаецца і падаецца ў ружовых колерах.

У большасці беларусаў адсутнічае нацыянальная самасвядомасць і гэта найвялікая бяда. Вера ў Бога часта падмяняецца паказушнымі паходамі ў Царкву. Вера для многіх — даніна модзе, магчымасць папрасіць ва Усявышнага кавалак каўбасы і чарку на будучыню, а не святое пачуццё.

Заклік «бярыце ад жыцця ўсё!» для многіх сёння жыццёвы дэвіз. Бяруць ад жыцця, што можна і нават не думаюць, што хоць крышачку гэтага «можна» трэба пакінуць іншым. Людзі развучыліся дзяліцца радасцю, шчасцем і радавацца чужой радасці і шчасцю. Засталіся злосць і зайздрасць да тых, хто мае больш, хто разумнейшы, каму шанцуе.

Не так даўно размаўляла з былой настаўніцай. Жанчына ніколі не была замужам, не мела дзяцей, не зведала сямейных праблем, ніколі ні пра каго, акрамя сябе, відаць, не думала і ні за каго не хвалявалася. Усё жыццё аджыла



дзеля сябе. Вучыла дзетак у школе. Інтэлігентка... А як даведалася пра мае погляды на цяперашняе жыццё, пачала айкаць ды войкаць, як над нябожчыкам, шкадаваць, што «такая умная женщина, а связалась с маразматиками, с больными людьми (маюцца на ўвазе прадстаўнікі апазіцыі — *аўтар*). О каком народе ты говоришь? Думай только о себе. Все думают только о себе..»

Цяпер разумееце парасткі якой «нацыянальнай» свядомасці вырошчвала настаўніца ў галовах сваіх вучняў? І мы дзівімся: чаму наша моладзь у большасці сваёй такая недальнабачная? Чаму такая вяла-падатлівая, як пластылін: хто што хоча, той тое з яе і вылепіць? На жаль, педагогаў у нас шмат, а вось настаўнікаў — адзінкі. Прыведзены прыклад яскрава даказвае, чаму мы жывём так, як жывём. Таму, што кожны думае толькі пра сябе, а па Бібліі трэба «возлюбить ближнего своего, как самого себя».

І яшчэ. Пачуццё зайздрасці нарадзіла ў многіх беларусаў пачуццё жывёльнай помсты. Калі здарылася няшчасце ў Амерыцы, загінулі, прапалі без вестак людзі, землякі, з якімі давялося гутарыць, ледзь хавалі радасць і са злосцю казалі: «А во ім, буржуям, а то зажраліся там. Мы жывём, як жабракі, а яны жыруюць. Няхай паспрабуюць памучацца, як мы мучаемся ўсё жыццё».

Чарвівая свядомасць. Гэта жахліва жадаць бяды і смерці тым, хто дабіўся, а значыць, заслужыў годнае жыццё і жыве годна, хто ганарыцца сабой, сваім грамадзянствам, сваёй краінай, хто дапамагае іншым краінам жыць лепш, будзіць іх сонную нацыянальную свядомасць. І не віна амерыканцаў у тым, што беларусы хочуць жыць жабракамі, бязроднай, перакаці-поле нацыяй, якая сёння — рэспубліка, а заўтра з маўклівай згоды большасці — расійская губерня. Кашчунства радавацца чужой бядзе, бо бяда бумерангам вернецца да тых, хто яе жадае іншым. Сітуацыя ў Беларусі сёння такая, што 10% грамадзян сапраўды нацыянальна свядомых, разумных, ініцыятыўных, энергічных, якія працуюць за двух-трох, зняважаныя, асмяяныя, маральна прыніжаныя. Афіцыйныя ўлады лічаць іх людзьмі ніжэйшага гатунку. Яны залічаны ў разрад бязродных, безыменных. Гэтыя людзі пазбаўлены працы, быццам бы гарантаванага дзяржавай годнага жыцця. Яно і зразумела: каб гэтыя 10% былі дапушчаны да кіравання, добрай палове цяперашніх чыноўнікаў не было б чаго рабіць. Якраз гэта апошніх і пужае, бо калі няма розуму і жадання працаваць, то чым займацца, калі неяк не будзе ўпраўляць іншымі?

Чытач можа пацікавіцца: «А як распазнаць гэтых талковых, разумных, свядомых? На лбе ж у іх не напісана».

Так, не напісана. Трэба пачаць цікавіцца не толькі сабой, але і людзьмі, якія побач, іх жыццём, думкамі, перажываннямі, паводзінамі. Не трэба зайздросціць суседзям і знаёмым, якія ў цяжкім эканамічным становішчы жывуць моцна. Прыглядзьцеся: той, хто змог сваёй працай, розумам зарабіць дабрабыт пры такіх умовах, дорага каштуе. Хто сам наладзіў парадак у сям'і, той зможа навесці парадак і ў сям'і большай. Трэба больш чытаць, верыць у чалавечыя каштоўнасці, а не ў ідэалагічныя маразмы.

Тыя, каго вы старацеся распазнаць,жывуць побач з вамі, але мераць паўсядзённасць і думаюць зусім іншымі катэгорыямі. Гэта людзі адметныя сваімі паводзінамі, працаздольнасцю, імкненнем павесці за сабой і той «хваробай», якая прымушае хвалявацца і перажываць спачатку за народ, а пасля за сябе.



Фота А.Храпавіцкага

Гэты фотаздымак быў зроблены на днях.

Такую карціну можна пабачыць у двары дома 107, што ў глыбоцкім мікраараёне МКК. Самае цікавае тут тое, што смецезборачная машына спыняецца ў 60 метрах ад "самаробнай" памыйкі. Каментар у гэтым выпадку не патрэбны. Хай той, хто гэта зрабіў, падумае пра свае этычныя якасці ці іх адсутнасць, падумае пра дзяцей, якія гуляюць на гэтым двары. Пра якую Еўропу, дэмакратыю, этыку мы можам размаўляць, калі на нашых вачах робяцца ўчынкі, якія можна назваць адным словам – свінства?!

## Беларускі бізнес усім на дзіва

**85% прадпрымальнікаў Беларусі прызналіся, што вымушаны даваць хабар, кожны чацвёрты, што збіраецца перанесці свой бізнес у суседнія краіны.**

Толькі 19% прыбытку мае вытворца з выручкі. Для нармальнага ж развіцця трэба не менш 50%. Літва, насельніцтва якой у 3 разы менш,чым у Беларусі, у пераліку на душу насельніцтва выпускае прадукцыі ў тры разы больш за Беларусь і дагнала нас па аб'ёме валавага ўнутранага прадукта.

*"Народная воля"*

## Дзеці не жадаюць жыць

Не паспелі перажыць гора з прычыны самагубства 13-гадовай дачкі Наташы ў сям`і з в.Лісуны Аршанскага раёна, як праз 2 тыдні ў гэтай жа сям`і пазбавіў сябе жыцця хлопчык. Падлетак наглытаўся таблетак. Жыццё ў дзяцей было невыноснае. Бацькі-п`яніцы развяліся, але жылі-пілі разам, а затым біліся. Калі жонка здавала мужа ў міліцыю, тут жа знаходзіўся новы «ўхажор», з якім яна клалася ў ложак. Дзе ўжо там было калі думаць пра дзяцей і іх праблемы?! На жаль, такіх сем`яў усё больш на Беларусі. Калі на стале гарэлка і чарка, зачацце, нараджэнне і выхаванне дзяцей робіцца справай другараднай.

*У.Шык*

Жыццё якое яно ёсць

# Не хлебам адзіным жыве чалавек

Было гэта даўно, як кажуць у нашых мясцінах, пры "палякаx". Жылі ў вёсцы сем'і Івана Жука і Пятра Сініцы. У кожнай сям'і была хата з гаспадарчымі пабудовамі і кавалак зямлі, хоць і невялікі, але гаспадары былі працавітымі і таму жылі няблага: быў хлеб і да хлеба. Іх сядзібы знаходзіліся ў розных канцах вялікай вёскі, але гэта не было перашкодай, каб быць сябрамі. У святочныя дні хадзілі разам з жонкамі ў царкву, а па вялікіх святах дазвалялі сабе і па чарцы кульнуць. Іван Жук вызначаўся невялікай адукаванасцю: чытаў Біблію, ў царкве заўсёды ставіў перад іконамі свечкі, дапамагаў святару. "Набожны чалавек", — гаварылі суседзі. І вось аднойчы ён папрасіў у сябра грошай, каб купіць сабе яшчэ кавалак зямлі. Грошы ў сябра былі і той згадзіўся, тым больш, што Іван абяцаў вярнуць іх праз месяцы два-тры. Нядоўга думаючы, Пятро без сведак і без ведама сваёй жонкі пазычыў Івану грошы.

Мінула паўгода, але Іван не спяшаўся вярнуць доўг. Пры сустрэчы Пятро стаў напамінаць пра грошы. Спачатку Іван прасіў пачакаць, а потым сказаў, што ніколі ў таго нічога не браў. Абураны Пятро пра ўсё расказаў жонцы і сваёй радні. Спачатку сваякі Пятра спрабавалі па-добраму пагаварыць з Іванам, але апошні цвёрда стаяў на сваім. Потым гэту справу разглядаў суд, які закончыўся безвынікова паколькі сведак не было. Час ішоў, былыя сябры сталі ворагамі.

Нарэшце Пятро не вытрымаў, пайшоў і расказаў усё святару, адукаванаму і разважліваму чалавеку, які нямала пажыў і шмат чаго пабачыў на сваім вяку. Да таго ўжо дайшлі чуткі з абодвух бакоў, і ён многа думаў, як вырашыць гэту справу і цярпліва чакаў, хто прыйдзе да яго з непасрэдных удзельнікаў. Уважліва выслухаўшы Пятра і ўдакладніўшы падрабязнасці, святар спачатку супакоіў яго, потым пачаставаў гарбатай, а сам , сказаўшы, што ёсць неадкладныя справы, , выйшаў на вуліцу. Там ён паклікаў хлапчукоў і папрасіў, каб яны схадзіла да Івана Жука і сказалі, што святар хоча яго бачыць. Вярнуўшыся ў пакой да Пятра, ён сеў так, каб бачыць, што робіцца на вуліцы і стаў працягваць гаворку, але ўжо на іншыя тэмы: пра надвор'е, ураджай. Час ад часу святар пaглядаў у акно. Пятро ўжо ў думках збіраўся ісці дадому, як раптам святар падняўся і сказаў: "Я паспрабую табе дапамагчы. Да мяне ідзе Іван Жук, і я буду з ім гаварыць. Ты ў гэты час будзеш у суседнім пакоі і выйдзеш адтуль толькі тады, як я цябе паклічу". Сказаўшы гэта, паказаў на дзверы другога пакоя, а сам стаў чакаць.

Пастукаўшыся ў дзверы, Іван з шапкай у руках увайшоў у пакой, перахрысціўся на іконы, што віселі ў куце і прывітаўся са святаром, які запрасіў сесці. Сеў сам і пачаў размову: "Я паклікаў цябе, каб параіцца, каму можна даручыць будаўніцтва новай агароджы каля царквы. Людзей у вёсцы ты добра ведаеш, ды і яны цябе таксама". Іван узрадаваўся, што да яго звяртаюцца за дапамогай, бо пасля выпадку з Пятром палова жыхароў вёскі не хацела мець з ім ніякіх спраў. Іван падтрымаў гаворку: называў майстроў, абмяркоўваў, як лепш зрабіць. Закончыўшы гэту тэму, яны яшчэ доўга гаварылі пра іншае. Потым святар уважліва паглядзеў на Івана і сказаў: " Людзі кажуць, што ты узяў грошы ў Пятра, а вяртаць не збіраешся". "Бацюшка, — як ужалены падскочыў Іван, — прыдумаў гэта ўсё Пятро. Ён мне проста зайздросціць, што я купіў кавалак зямлі. У запале ён даказваў, што не вінаваты. Святар не перашкаджаў гаварыць. Калі Іван змоўк, ён устаў і сказаў: "Зайздрасць – гэта грэх, але больш грэх – падман, ашуканства, паклёп". Пасля працяглай цішыні Іван прамовіў: «Не вінаваты я". «Не спяшайся з адказам, добра падумай, каб не браць грэх на сваю душу," – сказаў святар, затым падышоў да кута з іконамі. Побач стаяў стол, на якім ляжалі Біблія і царкоўны крыж. У пакоі зноў стала ціха. Іван стаяў і глядзеў у падлогу, а потым ціха паўтарыў: "Я не вінаваты". Пасля гэтых слоў святар узяў са стала крыж і падышоў да Івана.

"Я хачу паверыць табе, але каб паверыў поўнасцю і мог сказаць другім, што ты гаворыш праўду, цалуй крыж", — спакойным, цвёрдым голасам сказаў ён. Іван глянуў на крыж і пабялеў. "Цалуй крыж, калі ты сказаў праўду," – паўтарыў святар. Іван яшчэ больш збялеў, адвёў позірк, а потым, упаўшы на калені, сказаў: "Прабач мяне, бацюшка, я ўзяў грошы". Святар наклікаў Пятра і звярнуўся да Івана: "Паўтары, што ты сказаў." Той прамовіў: "Я браў грошы, і я іх вярну". Потым, устаўшы з кален, дадаў: "Даруй мяне, Пятро".

"Бог даруе", — быў адказ.

*Леў Васільевіч Табола, в. Заазерцы*





Гэты здымак на конкурс «Кур'ёзы жыцця» даслаў наш аўтар і чытач **Р.Л.Шарыпкін** з в.Лучайка. Зрабіў ён яго з балкона другога паверха. Дзве індакачкі без цяжару ўзляцелі на такую вышыню і залюляліся на шнурку-арэлях. Каб жыўнасць не зляцела ў вырай, гаспадыня падрэзвала качкам крылле.

***Віншую Яраслава Берніковіча з 35-годдзем з дня нараджэння. Жадаю яму быць здаровым, мець грошы, усё жыццё крочыць побач з любімым чалавекам і дзяліць каханне толькі з ім. Жадаю не старэць душой, не траціць аптымізму і ісці па жыцці смеючыся. Не забывайся, што ты ў сям'і гаспадар, муж, бацька, апора і надзея для ўсіх, хто цябе паважае і любіць!***

*Васіль*

# Вуглік, альбо сібірская язва, Беларусі не пагражае

**Нядаўна ў Мінску прайшоў 5-ты міжнародны форум глабальнай вакцыналогіі, у якім удзельнічалі мікрабіёлагі і эпідэміёлагі з 10 краін. Апошнія зводкі з франтоў бактэрыялагічнай вайны ды сусветная паніка перад навалай вугліку (сібірскай язвы) зрабілі сустрэчу актуальнай.**

У Беларусі існуе сістэма прафілактыкі сібірскай язвы. Беларускі НДІ эпідэміялогіі і мікрабіялогіі мае найбуйнейшую ў Еўропе даследчую лабараторыю. Аддзяленні інстытута існуюць ва ўсіх абласных цэнтрах.

У сувязі з небяспекай бактэрыялагічных атак плануецца закупляць больш вакцын (дагэтуль Беларусь набывала 10 тысяч антывуглікавых прэпаратаў штогод).

Вуглік, альбо сібірская язва,-- інфекцыйная хвароба, споры якой не бяруць ні мароз, ні сухмень. Яна можа быць скурнай, лёгачнай, кішэчнай і септычнай, суправаджаецца атручаннем і трасцай. Чалавек звычайна заражаецца ад жывёлы, даглядаючы яе або апрацоўваючы трупы. Можна заразіцца і праз глебу, бо споры ў ёй жывуць да 100 гадоў. Чалавек пачынае хварэць праз два-тры дні пасля заражэння. Апошні выпадак, калі ў Беларусі захварэў на сібірскую язву чалавек, быў зафіксаваны ў 1982 г. у Смалявіцкім раёне. Жывёла не здыхала ад гэтае хваробы ад 1999 г. У нашай краіне 500 месц, дзе зафіксаваны споры сібірскай язвы: гэта жывёльныя могільнікі ды выганы.

**Як паведамілі "Вольнаму Глыбокаму" нашы санэпідэміёлагі, такое месца існуе і ў межах Глыбокага. Яно знаходзіцца ў раёне колішняга аэрапорта.** Людзі сярэдняга ўзросту гэтае месца памятаюць. У 1970-яя гг. яно было агароджана калючым дротам і стаялі шыльды, якія папярэджвалі, што тут "небяспечная зона".

*Згадваюцца тагачасныя чуткі, што тут пасвілася карова, якая нечакана захварэла. Карову зарэзалі і здалі на Глыбоцкі мясакамбінат. Нібыта ад пачатку ўрач-ветэрынар заўважыў у аналізах нешта падазронае, але адразу не прыдаў значэння. Потым, схамянуўся. Праверыў зноў мяса на аналіз. Так і ёсць --- сібірская язва! Прыйшлося спальваць усё мяса, якое кантактавала з заражаным.*

Потым высветлілася, што некалькі дзесяцігоддзяў перад гэтым, на месцы аэрапорта закапалі здохлую ад сібірскай язвы карову. Прайшоў час. Людзі забыліся пра небяспеку. Дажджы, талыя воды агалілі косткі на пахаванні. Вось гэта і стала прычынай заражэння выгану і каровы, якая тут пасвілася.

Сібірскую язву можна лёгка адолець пры дапамозе сучасных антыбіётыкаў. Галоўнае рана пачаць лячыць.

*Ул. Скрабатун*




Незалежная рэгіянальная газета «Вольнае Глыбокае»

Заснавальнік: Уладзімір Скрабатун
Рэдактар: Галіна Сутула

Набор: Юрый Калбасіч;
Дызайн, вёрстка: Васіль Саланінка;
Рэгіянальныя карэспандэнты:
С. Табола, Шаркоўшчынскі р-н, тэл.: 23111;
У. Шык (г. Паставы), тэл.: 22099

Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1099, выдадзена дзяржаўным камітэтам Рэспублікі Беларусь па друку 25 верасня 1998 г.

Меркаванні рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў.

Тэлефон: 28754 (Галіна СУТУЛА); тэл/факс 2 41 50.
Адрас для допісаў: вул. Валадарскага, 67, 211800, г. Глыбокае, BELARUS.

Газета выходзіць адзін раз на тыдзень
Аб'ём -- 1 друкаваны аркуш
Падпісана ў друк 29 кастрычніка 2001 г. у 9⁰⁰

Наклад 1000 паасобнікаў

Юрыдычны адрас: вул. Маскоўская, 121, г. Глыбокае.

Надрукавана ў Наваполацкай узбуйненай друкарні: г. Наваполацк, вул. Блахіна, 26 Замова 6687